

# БЕЛАРУС

№449 • Сьнежань 1997 г.
Год выд. 47

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

РЭДАКЦЫЯ «БЕЛАРУСА»

**ВІНШУЕ**

ЎСІХ СВАІХ АЎТАРАЎ, КАРЭСПАНДЭНТАЎ І ЧЫТАЧОЎ

**З КАЛЯДАМІ
І ЗЫЧЫЦЬ У НОВЫМ 1998 ГОДЗЕ
ЗДАРОЎЯ ДЫ НАДЗЕІ НА ЛЕПШАЕ!**

## «ЛУКАШЫЗМ» — ВАРЫЯНТ СТАЛІНІЗМУ

Пад гэткім загалоўкам 11 сьнежня быў апублікаваны на Інтэрнэце прэсавы камунікат Эўрапейскага Парляманту (ЭП) аб слуханьнях у пытаньні Беларусі, праведзеных Камітэтам ЭП па замежных справах, бясьпецы й абароне. На слуханьнях у якасьці прадстаўніка беларускага легітымнага парляманту, Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, выступіў ягоны старшыня сп. С. Шарэцкі. Ён сказаў, што леташні рэфэрэндум у Беларусі быў фактычна дзяржаўным пераваротам, які даў магчымасьць прэзыдэнту Лукашэнку ўсталяваць дыктатарскі рэжым, што стаўся «ракам на целе грамадзтва».

На слуханьнях сьведчыў таксама былы працаўнік беларускага Міністэрства замежных справаў Андрэй Саньнікаў, адзін зь дзеячоў цяперашняе дэмакратычнае апазыцыі. Абодва беларускія прадстаўнікі гаварылі аб патрэбе ня толькі ціску з боку эўрапейскіх дзяржаваў на афіцыйны Менск ды падтрымкі дэмакратычнае апазыцыі ў Беларусі, але й аб выкарыстаньні ўплыву Расеі на ўрад Лукашэнкі.

Слуханьні завяршыліся высновай, што ў дачыненьні да Беларусі трэба:

1) актывізаваць двухбаковыя й шматбаковыя сувязі з маладзейшым пакаленьнем у Беларусі;

2) стварыць у Менску прадстаўніцтва Арганізацыі па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе (АБСЭ);

3) распрацаваць праграму падтрымкі грамадзянскай супольнасьці (няўрадавых арганізацыяў) у Беларусі.

## УЗДЫМЕМ СВОЙ ГОЛАС ЗА ВЫЗВАЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ!

Жорсткасьць, зь якой дыктатарскі рэжым Лукашэнкі ўжывае сілу супраць беларусаў, нязгодых зь яго акупацыйнай палітыкай, уразіла ўвесь сьвет. Галоўны рэпрэсіўны ўдар скіраваны цяпер супраць беларускай моладзі, школьнікаў і студэнтаў, чыя свабодалюбнасьць найбольш раздражняе Лукашэнку.

У канцы лета – на пачатку восені схапілі й кінулі бяз суда ў турму актывістаў «Маладога Фронту» 18-гадовага Аляксея Шыдлоўскага (г. Стоўбцы), 22-гадовага Вадзіма Кабанчука (г. Бабруйск) і 16-гадовага школьніка Вадзіма Лабковіча (г. Менск). У турме ўсіх жорстка зьбілі; А. Шыдлоўскі пасьля зьбіцьця трапіў у турэмны шпіталь. Ім прад'явілі абвінавачаньні ў росьпісе сьцен антыпрэзыдэнцкімі лёзунгамі ды заклікамі да незалежнасьці Беларусі. Па законе гэтае абвінавачаньне (як і ва ўсіх іншых выпадках) не вымагае садзіць непаўналетніх у папярэднюю (сьледчую) турму. Ужо чацьверты месяц так званыя «сьледчыя» ня могуць даказаць віны беларускіх хлопцаў. Маладым палітычным вязьням адмовілі ў спатканьнях з бацькамі, а бацькам забаранілі перадаваць арыштаваным усялякія перадачы, нават лекі; есьці даюць праз дзень. Да іх не дапускаюць адвакатаў. Калі вучню Лабковічу нейкім чынам удалося атрымаць з волі падручнік беларускай мовы, прадстаўнік турэмнае адміністрацыі парваў падручнік. Хлопца пазбавілі права вучыцца ў школе. Цяпер удалося зноў перадаць яму школьныя падручнікі. Але турэмнае начальства забараніла настаўнікам наведаць і праэкзамэнаваць вучня ў турме.

Уся 95-я школа, дзе вучыўся Вадзім, у тым ліку настаўнікі ды адміністрацыя, абураная варварствам рэжыму. На Бацькаўшчыне й у беларускай эміграцыі нарастае хваля патрабаваньняў вызваліць маладых вязьняў. Іх трымаюць у Жодзінскай сьледчай турме (г. Жодзіна знаходзіцца за 40 км ад Менску), далей ад людзкіх вачэй.

Мы зьвяртаемся да сусьветнае грамадзкасьці, да беларусаў замежжа з заклікам узьняць свой голас у абарону гэтых беларускіх юнакоў. Нельга маўчаць, калі побач топчуць годнасьць маладога чалавецтва.

**Зянон Пазьняк, старшыня БНФ**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**дастойнаму сьвятарству й усім багалюбным праваслаўным вернікам Беларускага Народу**

**ХРЫСТОС РОДЗІЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ!!!**

*«Вось, Дзева ва ўлоньні зачне й народзіць Сына; І дадуць Яму імя Эмануіл, што азначае: з намі Бог» (Мц. 1:23).*

Дарагія Браты й Сёстры!

Сьветлы момант нараджэньня Хрыстова зьмяніў гісторыю ўсяго чалавецтва й стаўся пачаткам нашага ратунку. Сёньня пачуцьцё шчасьця напаўняе сэрцы нашыя, бо для ўсіх людзей зьзяе зорка Бэтлеему, і нам усім разам з шматлікімі анёламі нябеснымі хочацца ўслаўляць народжанага Бога й вымаўляць: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір у людзей добрай волі» (Лк. 2:14). Няхай усе людзі суцешацца ў вялікай радасьці, бо ўжо ёсьць падтрымка прыгнечаным і пакрыўджаныя маюць Абаронцу.

Гэтае падтрымкі патрабуем і мы, беларусы, як на Бацькаўшчыне, так і на эміграцыі. Колькі ліха, бяды ды гора зазналі нашыя людзі. Зямля нашая таптаная й надалей пакутуе ад людзей, якія стараюцца скарыць нас, вынішчаючы нашую сьвятую мову, нашыя звычаі, нашую гісторыю й нашую культуру. Адкуль бярэцца гэтае ліха? У Сьв. Пісьме сказана: «І з дому гэтага, што быў найвышэйшы, кожны, хто праходзіць міма яго, жахнецца й скажа: 'За што ўчыніў так Госпад зь зямлёю гэтаю й з домам гэтым?' І скажуць: 'За тое, што яны пакінулі Гаспада, Бога бацькоў сваіх..., і ўхапіліся за багоў іншых, і кланяліся ім, і служылі ім, — за тое Бог навёў на іх ўсё гэтае ліха'» (2 Летап. 7:21–22).

Найбольшы псыхалягічны прыгнёт — гэта страх. Страх абсалютна супрацьлеглы нашай веры, якая ўліваецца ў душы людзкія, як шчодры дар любові ад Божага Духа. І калі ў нашых цяжкасьцях мы трацім пачуцьцё любові да ўсяго свайго, тады пакідае нас і пачуцьцё самасьвядомасьці, самапашаны, самаўпэўненасьці. Карэнны страху, ад якога мы мусім вызваліцца, знаходзіцца ў кволасьці нашае веры ды малым спадзяваньні на апеку Божую, поўную мілаты й дабрыні. Калі апосталы спалохаліся ўсхваляванага мора й прасілі Хрыста, каб памог ім, то Ён запытаўся: «Чаму вы так спалохаліся, МАЛАВЕРНЫЯ?» (Мц. 8:26).

Хрыстос абяцаў вызваленьне нам — тым, што пакутуюць пад прыгнётам, і мы ведаем, у Кім палёгка нашая, бо ў Дабравесьці сказана: «Прыйдзеце да Мяне ўсе спрацаваныя й абцяжаныя, і Я супакою вас. Вазьмеце ярмо Маё на сябе й навучэцеся ад Мяне: бо Я ціхі й лагодная сэрца, і знойдзеце супакой душам вашым. Бо ярмо Маё любае й цяжар Мой лёгкі» (Мц. 11:28–30). Больш таго, Хрыстос прыйшоў адкрыць нам, што мы маем любаснага Айца Нябеснага, Якому ведамы кожны волас на галовах нашых. У сьвятле гэтага адкрыцьця хваляваньні й страх пакінуць нашыя сэрцы, бо калі Госпад клапоціцца пра птушак нябесных і апранае палявыя лілеі красою, дык тым больш Айцец наш нябесны ўратуе нас ад небясьпекі. Дабравесьце вучыць нас: «Ня бойцеся, малое стада, бо Айцец ваш упадабаў даць вам валадарства» (Лк. 12:32).

Кожны з нас няхай прыгадае песьню: «Ля рэк бабілёнскіх» (Пс. 136/137), якая пяецца на ютрані ў Нядзелю Блуднага Сына. Песьня «Ля рэк бабілёнскіх» — гэта плач габрэяў у бабілёнскай няволі. У песьні выяўляецца туга габрэйскага народу па страчанай бацькаўшчыне — Сыёне.

Габрэі, будучы ў няволі, прысягнулі перад Богам: «Калі я забуду цябе, Ерусаліме, няхай забудзе мяне правіца мая; няхай прыліпне язык мой да паднябеньня, калі я не згадаю цябе, калі ня дам перавагі Ерусаліму над найвышэйшай радасьцяй сваёй» (Пс. 136/137:5–6). Габрэі ўсклікнулі да панявольніка: «Дачка Бабілёну, нішчыцелька! Шчасьлівы той, хто адплаціць табе за ўчынак, што ты нам учыніла!» (Пс. 136/137:8–9). Габрэі былі верныя сваёй прысязе, таму яны здабылі сваю незалежнасьць пасьля дзьвюх тысяч гадоў.

Дарагія мае, заўсёды знаходзіліся ў нашым народзе людзі, якія добра ведалі, што трэба ў Бога шукаць падтрымкі, каб перанесьці ўсе цяжкасьці. Хрыстос прыйшоў да нас, каб паказаць, што рукі бясправных слабыя, бо да нас паслана слова ратунку, бо мы ўсё спадзяваньне нашае маем у ласцы, якая дадзена нам праз народжанага Ісуса Хрыста. Таму мы ў сіле зрабіць усе намаганьні, каб захаваць чысьціню сэрцаў нашых, напоўненых сапраўднай любоўю. Той любоўю, якой сын любіць бацьку — не ад страху, не ў спадзяваньні ўзнагароды, але ад чысьціні пачуцьця. Мець гэткую любоў — значыць быць вызваленымі. У Сьвятым Пісьме сказана: «Таму ўсьцешылася сэрца мае ды ўзрадаваўся язык мой, дый цела маё супачыне ў спадзяваньні, бо Ты не пакінеш душы мае ў пекле й не дасі Сьвятому Твайму пабачыць тленьне. Ты даў мне ведаць шляхі жыцьця, Ты напоўніш мяне весялосьцю перад абліччам Тваім» (Дзеі 2:26–28).

Гэтак і нашыя душы няхай напоўняцца весялосьцю, каб вусны нашыя ў нашай роднай мове засьпявалі песьню падзякі Народжанаму Ратаўніку нашаму. Каб чысты гук нашых малітваў быў пачуты ды абудзіў нашую Бацькаўшчыну. Бо вось паслана нам Сьвятло праўдзівае, што прасьвятляе кожнага чалавека, які прыходзіць на сьвет (Ян 1:9).

*Каляды лета Божага 1997-га* **Мітрапаліт БАПЦ Мікалай**

# 77-ЫЯ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

*30 ЛІСТАПАДА*

## ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.

Урачыстую акадэмію адкрыў старшыня мясцовага аддзелу БАЗА сп. Янка Азарка, адзначыўшы, што беларусы ў ЗША сьвяткуюць угодкі Слуцкага Чыну ўжо па-над 40 год, а са зьяўленьнем новае хвалі эміграцыі можна быць пэўным: гэтая дата будзе ўшаноўвацца й надалей.

З дакладам, прысьвечаным падзеям на Случчыне ў 1920 годзе, выступіў др Ян Запруднік. Дакладчык падкрэсьліў, што зерне, кінутае случчакамі — збройная барацьба за ідэалы БНР, — давала й дае ўраджай. Змаганьне за аднаўленьне БНР на палітычным фронце вядзецца няспынна. Падзеі на Случчыне — довад, што беларускі народ за сваю незалежнасьць можа змагацца са зброяй у руках.

Прысутны на акадэміі старшыня БНФ сп. Зянон Пазьняк расказаў аб працы БНФ на дзялянцы аднаўленьня памяці пра Слуцкі Чын ды аб сёньняшняй беларускай палітычнай дзейнасьці на Захадзе.

Адзначэньне Слуцкіх Угодкаў закончылася адсьпяваньнем «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## РЫЧМАНД ГІЛ, Н. Ё.

Тут адзначала ўгодкі Слуцкага Паўстаньня Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне (БАА). Раніцаю пачалі дзень Божаю службай у царкве. Правіў а. ігумен Грэгары ў служэньні дыяканаў а. Майкла й а. Алега, пяяў хор пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды. Было шмат людзей, сярод іх стаялі вэтэраны са сьцягамі. Літургія прайшла годна.

У канцы службы а. Грэгары коратка сказаў пра Слуцкае Паўстаньне, пасьля чаго адслужыў малебен з нагоды гэтай памятнай даты. Закончылі малітваю-гімнам «Магутны Божа».

Пазьней у Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага Чыну. Пасьля амэрыканскага гімну сп. К. Мерляк, старшыня БАА, прывітаў прысутных са сьвятам ды папрасіў сп. В. Шчэцьку расказаць аб падзеях на Случчыне ў лістападзе 1920 году. Сп. В. Шчэцька падаў некаторыя маманты з гісторыі Слуцкага Паўстаньня, скончыўшы разважаньнямі пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі. Патрыятычны ўздым случчакоў у 1920 годзе павінен стацца прыкладам, як нам змагацца за вольную Беларусь супраць нялюдзкага рэжыму Лукашэнкі.

Пасьля рэфэрату прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## ТАРОНТА (КАНАДА)

А 10-ай гадзіне раніцы ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве ў Таронта адпраўлялася архірэйская Сьв. Літургія й Паніхіда па тых, што аддалі жыцьцё ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі. На «Вечную памяць» і «Са сьвятымі...» хіліліся долу беларускі й канадыйскі сьцягі. Багаслужба ў царкве закончылася гімнам «Магутны Божа».

Пасьля ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру (БРГЦ) адбыўся ўрачысты сход. Адкрыў яго заступнік старшыні Згутаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) Раман Кардонскі. Ён прачытаў прывітаньні ад Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў ў Кліўлендзе й ад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі.

Кастусь Акула зачытаў сымбалічны сьпіс Герояў Беларусі. Прысутныя слухалі яго стоячы й пасьля зачытаньня кожнае групы змагароў хорам адказвалі: «Загінулі за волю Бацькаўшчыны!» Аддалі мы пашану іхняй памяці хвілінай маўчаньня й песьняй: «Сьпі пад курганам герояў». З вуснаў Любы Вврановіч прагучэў верш Янкі Купалы «Зь песьняў вайны».

Аляксандар Бучкевіч зрабіў даклад, у якім падкрэсьліў значэньне сьвяткаваньня й аддаваньня пашаны памяці продкаў, што змагаліся й паміралі, каб жыла Бацькаўшчына, ды перадалі нам наказ працягваць гэтае змаганьне.

Старшыня Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады др Р. Жук-Грышкевіч прывітала ўрачысты сход ад імя арганізацыі ды коратка накрэсьліла асноўныя моманты Слуцкага Чыну.

Змаганьне за незалежнасьць Беларусі й сёньня прадаўжаецца, казала др Жук-Грышкевіч. Наша Бацькаўшчына-Беларусь апынулася ў жахлівай сытуацыі, калі зьнішчаецца ўсё беларускае — мова, культура, душа беларуса. У жахлівых абставінах адбываецца пад кіраўніцтвам БНФ змаганьне за незалежнасьць Беларусі.

Памяці случчакоў і сёлета памерлай Наталлі Арсеньневай быў зачытаны верш паэткі: «Ты не адна, о, Случчына...»

Кастусь Акула перадаў прывітаньні ад сп. Зянона Пазьняка, старшыні БНФ, ды падзяліўся апошнімі весткамі зь Беларусі.

Старшыня ЗБК Мікола Ганько заклікаў новапрыбылых у Канаду беларусаў далучацца да нашых беларускіх арганізацый, лічыць БРГЦ сваёй хатай і часьцей наведвацца сюды й у нашую царкву.

Сьвяткаваньне закончылася беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...».

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*7 СЬНЕЖНЯ*

## КЛІЎЛЕНД, АГАЁ

Аддзел Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (ЗБАВ) пачаў урачыстасьці ў царкве Жыровіцкае Божае Маці а 10-ай гадзіне раніцы. Пасьля сьв. Літургіі настаяцель М. Страпко й сьв. Дзь. Беленькі з царкоўным хорам адправілі паніхіду па палеглых героях Случчыны й усіх, што змагаліся за Беларусь. У часе службы стаяла сьцяжная ганаровая варта зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі: Алесь Каспэровіч і Слава Карніловіч.

Наступна ўсе перайшлі ў царкоўную залю, дзе адбыўся памінальны абед. На засланых абрусамі сталах гарэлі сьвечкі. На сцэне залі стаяла сымбалічная магіла зь Ярылавым крыжам, беларускім і амэрыканскім сьцягамі й надпісам «77-ыя Ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну». Сьвятары прачыталі малітву перад абедам, і ўсе разам адсьпявалі загінуўшым «Вечная памяць». Абед, за які адказвала Ева Яраховіч, быў добра прыгатаваны й абслугаваны.

Урачыстую частку акадэміі адкрыў старшыня ЗБАВ К. Калоша. На павітаньне ўсе разам прасьпявалі амэрыканскі гімн. Затым Ніна Кэртыш і Іра Врэцц злажылі вянок на сымбалічную магілу, а ў гэтым часе ўсе разам прасьпявалі жалобны марш «Сьпі пад курганам герояў». Далей праграму вёў Я. Ханенка; прывітаўшы прысутных, ён прадставіў айца Дзьмітра Беленькага, які прачытаў рэфэрат на тэму дня.

У мастацкай частцы выступіў хор «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і акампанэмэнт Аляксандра Яноўскага. Хор у нацыянальных строях прасьпяваў 7 песьняў, найбольш зь іх патрыятычных, а таксама фальклёрныя, а С. Белая прадэклямавала верш М. Багдановіча «Ня кувай ты, шэрая зязюля». Праграма закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## ПЁТР КРАЎЧАНКА — ЛУКАШЭНКАЎ ПАСОЛ У ЯПОНІІ

Сярод беларусаў на Захадзе стаўся шырока вядомы сваім дэкляраваным патрыятызмам і дзяржаўніцтвам сп. Пётр Краўчанка, былы міністр замежных справаў РБ, а пасьля дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, які коратка быў актыўным дзеячом апазыцыі, адным зь лідэраў Сацыял-дэмакратычнае партыі. Днямі сп. Краўчанка дастаў пасаду пасла РБ у Японіі. Цікава, коштам якіх ідэйна-палітычных саступак ён атрымаў гэтае крэсла?

## КАНАДЗКАЯ ГАЗЭТА ПРА БЕЛАРУСЬ І БНР

Сталічны штодзённік *The Ottawa Citizen* за 11 сьнежня 1997 г. зьмясьціў вялікі артыкул «Прэзыдэнт у чаканьні» пра Старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу, а таксама пра сучаснае становішча ў Беларусі. Аўтар артыкулу Майк Трыкі адзначае савецкі аўтакратычны характар грамадзкага ладу ў Беларусі, які заходнія дыпляматы характарызуюць як «найгоршы ў Эўропе».

Большая частка артыкулу, ілюстраванага фатаграфіяй Івонкі Сурвіллы, прысьвечаная біяграфіі новага Старшыні Рады БНР ды гісторыі паўстаньня й дзейнасьці Рады. «Беларускі ўрад на выгнаньні, — піша аўтар, — стаўся сьвятлом у пустэльні для ўсё меншае колькасьці дэмакратаў у Беларусі». Падаюцца словы І. Сурвіллы, якая сказала, што Рада БНР ня мае ніякіх ілюзіяў наконт магчымасьці вярнуцца да ўлады на Бацькаўшчыне, але затое перахоўвае сьвятло надзеі для тых, хто лятуціць аб незалежнасьці Беларусі й дэмакратыі ў ёй. «Мы намагаемся падаць да ведама сьвету, — цытуе журналіст словы І. Сурвіллы, — што Лукашэнка — гэта яшчэ не Беларусь і што Беларусі патрэбная дапамога. Наша надзея на моладзь Беларусі, якая ня памятае старых парадкаў і дамагаецца нармальнага чалавечага жыцьця».

## СЬВЯТА ДАЖЫНКАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Кліўлендзкая парафія Жыровіцкае Божае Маці заўсёды ўшаноўвае традыцыйныя дажынкі, а таксама разам амэрыканскае сьвята Halloween. Сьвяткаваньне пачалося ў нядзелю 26 кастрычніка а 11-ай гадзіне раніцы Божаю службаю ў залі «Полацку», затым настаяцель М. Страпко й сьвятар Дзь. Беленькі адслужылі Малебен. У канцы а. Страпко адгаварыў казань, прысьвечаную гэтаму сьвяту.

Наступна распачаўся абед у залі «Полацку», якая была ўпрыгожаная пладамі жніва. Абед быў даволі багаты, складаўся з розных страваў, добра прыгатаваных нашымі жанчынамі. Старшыня Оля Дубаневіч прывітала ўсіх прысутных зь сьвятам, падзякавала ўсім за прыняцьце ўдзелу ў дажынках, пажадала добрага здароўя, шчасьлівага, вясёлага й багатага жыцьця.

Пасьля гэтага адбыўся канцэрт хору «Васілёк» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч і пад акампанэмэнт Аляксандра Яноўскага ды Фёдара Паўлаўца.

Хор «Васілёк» прасьпяваў 12 песьняў: жніўныя, заручальныя, вясельныя, а таксама рамансы. Выступіў і дуэт «Васількі» — Оля Лукашэвіч і Маня Патапенка. Усе выканаўцы атрымалі ад прысутных падзяку — доўгія воплексі. На заканчэньне праграмы харыстыя й прысутныя, укола пабраўшыся за рукі , прасьпявалі разам беларускую песьню «Люблю наш край».

Падсумоўваючы, трэба прызнаць, што дажынкі ўдаліся. Вялікая падзяка тут належыцца царкоўнаму камітэту, царкоўнаму прычту за адпраўленьне службаў, хору «Васілёк» за добрую канцэртную частку, а ў канцы прысутным (больш за 120 чалавек), што падтрымалі яе.

**Кастусь Полацкі**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Чытайце на Інтэрнэце беларускія газэты**

**НАША НІВА**
http://rampage.ml.org/users/~nasa_niva/

**СВАБОДА**
http://belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda

*З беларускага друку замежжа*

Расея

## У ІРКУЦКУ *МАЛАНКА...*

Расея зьяўляецца краінаю найбольш актыўнай эміграцыі зь Беларусі: сёньня ў Расейскай Фэдэрацыі жыве каля 1 мільёна 200 тысяч беларусаў! Аднак распарушаным па бясконцых прасторах гэтай дзяржавы, нашым суродзічам удаецца гуртавацца толькі ў найбуйнейшых гарадох.

Горад Іркуцк знаходзіцца ў Сібіры, каля возера Байкал. Калісь у гэтыя мясьціны "на будоўлі камунізму" трапіла шмат беларусаў. Ужо паўтара гады тут дзейнічае Таварыства Беларускае Культуры імя Яна Чэрскага, якое выдае бюлетэнь-газэту "Маланка".

Нам у рэдакцыю трапіў 6-ы нумар «Маланкі», пазначаны ліпенем 1997 г.

З нумару мы даведваемся, што пры Таварыстве створаны Іркуцкі Беларускі Маладзёжны Клюб, нядаўна ўзьнік дзіцячы ансамбль «Пралескі», фальклёрны гурт «Беларусачка».

Сам факт узьнікненьня новага беларускага згуртаваньня цешыць нас, суродзічаў. Аднак у гэтым выпадку асабліва трэба падкрэсьліць, што яшчэ адзін беларускі цэнтар узьнік у Расеі, краіне, якая не хавае намераў "праглынуць" Беларусь.

Адрас рэдакцыі: **г.Іркуцк, м-н Зялёны, д.15, кв.38 664078 RUSSIA.**

Летува

## ...У ВІЛЬНІ *РУНЕЕ...*

Каторы год беларусы Летувы маюць уласны пэрыёдык — газэту «Рунь», якая апошнім часам пачала выходзіць даволі рэгулярна.

Тут пазнаёмім чытачоў «Беларуса» з найбольш заўважнымі публікацыямі апошніх нумароў «Руні».

Шмат увагі ў N5 (ліпень–жнівень) прысьвечана сэсіі Эўрапейскага сэктару Рады БНР, зьмяшчаюцца прынятыя на ёй дакумэнты. З болем беларусы Летувы разьвітваюцца зь Л. Луцкевічам. Рэдактар газэты Тацьцяна Шмідт публікуе рэпартаж з II зьезду беларусаў сьвету.

Верасьнёўскі нумар пачынаецца артыкулам пра Віленскую канфэрэнцыю (з удзелам кіраўнікоў дзяржаваў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы) і актыўны пратэст летувіскіх беларусаў супраць удзелу ў гэтай канфэрэнцыі Лукашэнкі. Успамінамі пра беларускі маладзёвы рух пасьляваеннага часу ў Бэльгіі ды Нямеччыне дзеліцца Янка Жучка ў інтэрвію «Моладзь скажа сваё слова».

Тут-жа зьмяшчаецца грунтоўны даклад А.Анішэўскага, зроблены на II зьезьдзе беларусаў сьвету «Фізычнае выжываньне беларускае нацыі». Абапіраючыся на багатую статыстыку, аўтар канстатуе: «Калі пазначаная вышэй тэндэнцыя захаваецца, то, па разьліках праф. Цялкоўскага, праз 111 гадоў зьнікне апошні жыхар Беларусі».

У гэтым-жа нумары сканчаецца публікацыя двух матар'ялаў з папярэдніх нумароў — «Успаміны з працы ў Таварыстве Беларускай Школы ў Вільні (1924—1930)» Надзеі Шнаркевіч і «Гуды Кайшадорскага раёну Літоўскай рэспублікі» (пра беларускія паселішчы на этнічна летувіскім абшары, Ігара Карашчанкі.

Праца 22-ой сэсіі Рады БНР асьвятляецца ў кастрычніцкім нумары «Руні» сябрам Прэзыдыюму Рады Хведарам Нюнькам.

З нагоды 6 угодкаў сьмерці Зоські Верас Галіна Войцік друкуе ўспаміны пра сваю маці.

«Рунь» выходзіць на васьмі старонках, тут нязьменна зьмяшчаецца хроніка падзеяў «Люстрадзён», весткі з Бацькаўшчыны, папулярныя артыкулы з гісторыі Беларусі, літаратурныя творы, багатая пошта.

На газэту можна падпісацца (12 даляраў ЗША на год), даслаўшы грошы на рахунак: **Banker Trust Company Acc. No USD 04403333 bankas "Hermis" SWIFT COBHLT2X No. 9121.**

Адрас рэдакцыі: **2001 Vilnius, Žygimantų, 12-3 LITHUANIA.**

Латвія

## ...А Ў РЫЗЕ ЧУВАЦЬ *ГОЛАС БЕЛАРУСА*

Зь лета аднавіла свой выхад газэта «Голас Беларуса», заснаваная яшчэ ў 1925 годзе. Трэба адцеміць, што ў часы «перабудовы», у 1989 годзе, ужо аднаўлялася выданьне гэтага пэрыёдыка (рэдагаваў Вадзім Паўловіч, выйшла 4 нумары), аднак зь фінансавых прычынаў справа ня мела працягу.

У звароце да чытачоў рэдакцыйная калегія інфармуе, што газэта выдаецца Латвійскім таварыствам Беларускае Культуры «Сьвітанак», якое «вось ужо амаль дзесяць год працуе на Адраджэньне беларускай культуры й асьветы ў Латвіі...

З 1991 па 1995 г., калі над нашай Бацькаўшчынай разьвіваўся сьцяг незалежнай беларусаў Пагоні, — адчыніліся беларускія школы, народ пачаў прыхіляцца да роднай мовы, пачалося й нацыянальнае абуджэньне беларусаў Латвіі...

Таварыствам у гэты час былі заснаваны беларуская нядзельная школа, беларуская пачатковая школа, беларуская праграма «Сьвітанак» на Латвійскім радыё».

Зычым калегам з «Голасу Беларуса» знайсьці сілы надалей выдаваць газэту й перайсьці на «тарашкевіцу».

Адрас рэдакцыі: **Slokas 37, Riga LV-1007 LATVIJA. E-mail: svitanak@mail.com**

# КАНАДА: ФІНАНСЫ ДЫ ІМІГРАЦЫЯ

Шмат хто ўважае Канаду самай вольнай і матар'яльна забясьпечанай краінай у сьвеце. Гэта й ня дзіўна: Канада ўваходзіць у сямёрку найбольш эканамічна разьвітых дзяржаваў сьвету, а па велічыні тэрыторыі займае другое месца (пры гэтым Канадзе не пагражае перанасяленьне — тут жыве менш за 30 мільёнаў чалавек). Цяпер ужо наўрад хто паўторыць за француцкім філёзафам Вольтэрам, што Канада — гэта ўсяго «некалькі акраў сьнегу».

Канада, як і раней, застаецца выключна прыцягальнаю для эмігрантаў з усяго сьвету. Гэты край, як магнітам, прыцягвае да сябе бедных і пакрыўджаных, яны імкнуцца трапіць сюды любымі шляхамі.

Канаду, нароўні з ЗША, завуць «мазаікай народаў». Ды што казаць пра эмігрантаў, калі сярод адных толькі карэнных жыхароў, індзейцаў, налічваецца 110 этнічных групаў. Праўда, іх утрыманьне каштуе дзяржаве больш за 7 мільярдаў даляраў на год.

Сёньня мы зьяўляемся сьведкамі пачатку новай хвалі іміграцыі нашых суродзічаў зь Беларусі ў краіны Вольнага Сьвету, у тым ліку і ў Канаду.

Цяпер, калі ў Рэспубліцы Беларусь пануе падтрымліваная Маскоўшчынаю дыктатура, шмат грамадзянаў яе — абрабаваных, пазбаўленых элемэнтарных чалавечых правоў, нацыянальнае культуры, мовы, вольнага рынку — хацелі-б іміграваць у Канаду.

Гэтак, газэта «Народная Воля» (18 красавіка 1997 г.) распавядае пра сям'ю Бадзякоўскіх з Бабруйска, якая жадала-б пасяліцца ў Канадзе.

*«Прачытаўшы рэкляму CVSV Trade Immigration Company, якая аказвае паслугі ў пытаньнях іміграцыі й навучаньня ў Канадзе, Віктар і Вера адразу вырашылі паспытаць шчасьця ў Канадзе. Трэба дадаць, што ў іх ёсьць дзьве дзяўчынкі — шасьцігадовая й чатырохгадовая. Здавалася-б, з такімі малымі дзецьмі зьбірацца ў далёкі шлях — адна недарэчнасьць. Што-ж тады прымусіла трыццаціпяцігадовага бацьку й трыццаціхтрохгадовую маці шукаць лепшай долі?*

*— Удваіх працуем, а жывём у галечы, — прызнаецца Віктар Фёдаравіч і ўдакладняе: – Усе гады прайшлі ў інтэрнаце. І ніякіх далейшых зьмен на паляпшэньне жыльлёвых умоў...*

*Гэта ўжо трывожны сымптом, калі людзей непакоіць будучыня, у якую яны ўсё часьцей страчваюць веру. Хваліюе й тое, што, лічы, немаладым ужо людзям — абодвум за трыццаць, — губляць няма чаго. Працаваць пачалі рана, а да гэтага часу нават кватэры няма...*

*— Я ня ведаю, — працягвае Віктар Бадзякоўскі, — што нас там чакае, які будзе прытулак, якая праца... Ці зможам мы, як сапраўдныя жабракі, узяць крэдыт і потым зарабіць і разьлічыцца? Ці ўсё гэта разьлічана толькі на тых, хто мае грошы!*

*У свае сілы, здольнасьці й працавітасьць галава сям'і з Бабруйска верыць. Спадзяецца, што зможа моцна на ногі стаць сам і падтрымаць дачок і жонку.*

*Смутак-самоту выклікае іншае. Чаму такі непрадказальны лёс і чаму людзі вымушаны пакідаць родную Беларусь, шукаць дабрабыту па-за межамі яе? Чаму ня вераць у заўтрашні дзень сваёй Радзімы? Зразумела, адказы можна знайсьці ў супярэчлівасьцях сучаснага жыцьця».*

Аднак новых эмігрантаў у Канадзе не чакаюць лёгкія часіны.

Стан фінансаў краіны — катастрафічны. Фэдэральны ўрад разам з урадамі ўсіх 10 правінцыяў краіны за агульныя даўгі сплочваюць працэнты памерам звыш 40 мільярдаў даляраў штогод. Аднак у дзяржаўным скарбе хранічна не хапае грошай, і таму, каб аплаціць гэтыя працэнты, робяцца новыя пазыкі.

Такім чынам, сукупны дзяржаўны доўг Канады перавысіў 1 600 000 000 даляраў. Беспрацоўе дасягнула 10%.

... Калі ў чэрвені 1947 году мараплаў «Аквітанія» прывёз з Саўтгэмптану (Вялікабрытанія) каля тысячы вайсковых вэтэранаў з польскіх аддзелаў брытанскай 8-ай арміі, мы пабачылі зьядналую й дынамічную краіну, якая пасьля перамогі над фашыстоўскай Нямеччынай адчыніла нам дзьверы для працы на фэрмах. Кантракт на два гады, мінімальная плата — 50 даляраў на месяц, харчы й памешканьне. Праца — цэлы дзень ад усходу да заходу сонца. Але мы былі вельмі задаволеныя. За плячыма — зруйнаваныя й раскіданыя гнёзды на зноў паняволенай маскалямі бацькаўшчыне, наперадзе — шырокі праспэкт матар'яльнага дабрабыту й духовае свабоды.

Дарэчы, на пачатку Другой сусьветнай вайны, у 1940 годзе, калі Савецкі Саюз на чале зь ведамым «генэралісымусам» дапамагаў «саюзнай Вялікай Германіі» весьці вайну супраць краінаў Эўропы, — Вялікабрытанія здолела выстаяць перад зьнішчальнымі налётамі Гэрынгавага *Люфтвафэ* найперш за падтрымкаю Канады.

Аднак нават пасьля грандыёзнай разбуральнай вайны Канада ня была гэтак задоўжаная, як сёньня, паўстагодзьдзя пазьней! Тут невясёла жартуюць: чаму плача кожнае нованароджанае канадыйскае дзіця? — Бо ледзь пасьпела нарадзіцца, а ўжо сядзіць у даўгох на 90 тысяч даляраў. Ад якога-ж часу Канада пачала жыць, як п'яны матрос?

У 1968 годзе да ўлады прыйшоў П'ер Эльёт Трудо. За 16 год яму ўдалося загнаць дзяржаву ў даўгі на звыш як 370 мільярдаў даляраў.

Гэта той самы Трудо, які падчас Другой сусьветнай вайны агітаваў у Квэбэку не пасылаць дзяцюкоў у Эўропу «на капіталістычную вайну». Пазьней ён-жа асьведчыў, што меў «самы найцяплейшы прыём» у... Нарыльску — горадзе за Палярным Колам, пабудаваным на касьцёх незьлічоных ахвяраў ГУЛАГу! Гэта ён — вялікі паклоньнік Мао-дзэ-дуна, які выправіў у іншых сьвет дзясяткі мільёнаў людзей!..

Наступнікі Трудо працягвалі штурхаць Канаду ў даўгавую яму.

Бачачы цяперашнюю сытуацыю ў эканоміцы Канады, маштабы беспрацоўя, наплыў эмігрантаў, сярод якіх шмат крымінальнага элемэнту (пераважна з краінаў «трэцяга сьвету»), ці варта раіць добрым людзям — з малымі дзеткамі, бяз грошай, без забясьпечанай тут працы ды медычнага загарантаваньня — прыяжджаць сюды?

А колькі пастак па дарозе! Колькі людзей становяцца ахвярамі злодзеяў і махляроў!

Дый пэўна-ж CVSV Trade Immigration Co — не дабрачынная кампанія. І яны хацелі-б зарабіць на ўжо абрабаваных людзях. Ці здолее краіна з такім аграмадным доўгам забясьпечыць новым імігрантам дастатковую матар'яльную падтрымку?

**Кастусь Акула**

# БЕЛАРУСАВЕД ВАЛЬТЭР ЕГЕР

### ЗЬ БІБЛІЯРАФІЧНАЙ І АРХІЎНАЙ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА



Бібліяграфічная праца ў БІНІМе вядзецца ў некалькіх напрамках: амаль падрыхтаваная бібліяграфія друку беларускае дыяспары ад 19. ст. да канца 1997 году; расьпісвацца беларускі пэрыядычны друк ад дваццатых гадоў, складаецца картатэка беларусікі ў замежных мовах. І вось працуючы зь беларусаведнымі друкамі ў нямецкай мове ды пераглядаючы архівы, зьвязаныя зь Нямеччынай, удалося папоўніць біяграфічны нарыс аднаго з найбуйнейшых нямецкіх беларусаведаў першае паловы нашага стагодзьдзя — Вальтэра Егера.

Вальтэр Егер зьяўляецца аўтарам значнае працы пра Беларусь у нямецкай мове *Weissruthenien, Land–Bewohner–Geschichte–Volkswirtschaft–Kultur–Dichtung*, выдадзенай у Бэрліне ў 1919 г. Гэтая кніга — ілюстраваны зборнік артыкулаў пра гісторыю, эканоміку, культуру, літаратуру Беларусі. У кнізе ёсьць і пераклады Купалавых твораў; дадаецца карта БНР. Неабходна зазначыць, што ў часе, калі Вальтэр Егер працаваў над гэтай кнігай, сярод нямецкіх дасьледнікаў было некалькі добрых знаўцаў тагачаснае Беларусі, а некаторыя зь іх вызначыліся вельмі паважнымі працамі зь беларусазнаўства (А. Іпэль, праф. Р. Абіхт, П. Вэбэр).

Пра Вальтэра Егера ў нашай даведчай літаратуры мала дадзеных, дый іх нялёгка знайсьці, як і нялёгка расшукваць артыкулы пра Беларусь у замежных мовах. Таму й прапануем увазе новага пакаленьня чытачоў біяграфію заўважнага ў галіне беларусікі навукоўца (тым болей, што ягонае імя згадваецца шмат разоў у кнізе «Ўспаміны Вітан-Дубейкаўскай»; бібліяграфічныя зьвесткі сталіся даступнымі, дзякуючы дзейнасьці Ю. Дубейкаўскай, Вальтэра Егера й д-ра Вітаўта Тумаша).

Ня ведаючы нічога пра лёс Вальтэра Егера, але з упэўнасьцю, што для гісторыі пра гэтага навукоўца трэба ведаць больш, д-р Вітаўт Тумаш у 1954 годзе зьвярнуўся да сп-ні Юліяны Дубейкаўскае, якая ў гады І сусьветнае вайны жыла ў Вільні ды была асабліва блізкай супрацоўніцай братоў Луцкевічаў, з просьбай даслаць інфармацыю, калі яшчэ нешта захавалася, пра Вальтэра Егера, А. Іпэля ды іншых нямецкіх аўтараў часоў І сусьветнае вайны ды іхную сувязь зь віленскімі беларусамі.

У гэтай справе сп-ня Дубейкаўская напісала адразу да самога Вальтэра Егера, які тады жыў у савецкай зоне Нямеччыны, у Ваймары, просячы прыслаць аўтабіяграфічную даведку з успамінамі пра гады прабываньня ў Вільні, пра супрацоўніцтва там зь беларусамі ды пра абставіны выхаду кнігі "Weissruthenien". Аўтабіяграфію, хоць і вельмі кароткую, Вальтэр Егер даслаў адразу, але з умоваю не публікаваць яе пры ягоным жыцьці.

Мінула ад таго часу больш за 40 гадоў. У 1969 г. памерла адданая ахвярнай нацыянальна-грамадзкай працы братоў Луцкевічаў Ю. Дубейкаўская. Напэўна, ня жыве ўжо й Вальтэр Егер. І таму час выдрукаваць кароткую біяграфічную даведку пра шчырага прыяцеля беларусаў, супрацоўніка Луцкевічаў ды рэдактара-выдаўца кнігі пра Беларусь і беларусаў у нямецкай мове.

Аўтабіяграфія Вальтэра Егера друкуецца тут у перакладзе зь нямецкае мовы, зробленым Ю. Дубейкаўскай. Гэты пераклад сп-ня Дубейкаўская пераслала яшчэ ў 1954 г., а разам з гэтым са свайго архіву й фатаграфію В. Егера, датаваную 1919 годам — менавіта тады выйшла ягоная кніга "Weissruthenien".

**В. Кіпель**

### АЎТАБІЯГРАФІЯ В. ЕГЕРА

Нарадзіўся я ў 1885 г. у Бэрліне, школу, рэальную гімназію скончыў у Дрэздэне. Вучыўся пасьля ў Фрайбургу, Мюнхене, Бэрліне й пасьля 6-ёх сэмэстраў паступіў у тэатр ды стаў артыстым. Да Першае сусьветнае вайны выступаў на сцэне ў Тэпліц, Фрайбургу, Бэрліне й Нюрнбэргу.

Калі з пачаткам Першае сусьветнае вайны мяне паклікалі ў армію, я хутка быў уключаны ў лік супрацоўнікаў газэты X Арміі — "Zeitung der X Armee" — у Вільні. Тут мне дaручылі кіраўніцтва культурна-мастацкім аддзелам газэты. Маючы за заданьне пазнаёміць чытачоў газэты X Арміі з жыцьцём, гісторыяй і мастацтвам акупаванага краю, мне прыйшлося бліжэй заняцца гэтымі заданьнямі. Тут мушу зь вялікай удзячнасьцяй успомніць дапамогу братоў Антона й Івана Луцкевічаў. Асабліва апошні, як архэалёг і знаўца гісторыі й мастацтва гэтага краю, даваў мне каштоўныя парады, выбіраў матар'ялы для перакладаў, якія я пасьля апрацоўваў. Асабісты кантакт зь беларусамі дапаўняў маё азнаямленьне з гэтым краем. Гэтак у газэце X Арміі шмат артыкулаў было прысьвечана гісторыі й культуры Літвы й Беларусі.

У канцы 1918 г. нямецкая армія пакінула Вільню, я апынуўся ў Нямеччыне, дзе хутка быў звольнены з войска. Я й мой былы супрацоўнік у Вільні, др. Альбэрт Іпэль, пастанавілі выдаць, як рэзультат нашае працы ў Вільні, кнігу аб Беларусі, якая й была надрукаваная ў 1919 г. у Бэрліне пад назовам "Weissruthenien. Land–Bewohner–Geschichte–Volkswirtschaft–Kultur– Dichtung."

Др. Іпэль асабліва цікавіўся мастацтвам Беларусі й разам з Іванам Луцкевічам, карыстаючыся багатымі музэйнымі збо-

*Постаці*

# АЙЦЫ МАРЫЯНЕ

*«Зьбіраючы пакрысе ўсюды раскіданы матар'ял аб нашай старасьвеччыне, ня раз думаю, што гэта-ж нашы аграмадныя скарбы, за якія мы нясём адказнасьць перад Богам і перад народам, каб сабраць аб іх усё, што агулам яшчэ магчыма сабраць. Думаю, што нават сухое пералічэньне гэтых памяткаў ужо будзе мець сваю вартасьць. Падобна як мучаніцкая кроў зьяўляецца таёмным удабрэньнем для непаможнае веры, так помнікі духовае культуры, нават іхнія руіны падтрымоўваюць духовы рост народу».*

***айцец Л. Гарошка***

Зарганізаваны ў 1693 г. у Польшчы сьвятаром Станіславам Папчыньскім, забаронены пазьней царскімі ўладамі, ордэн айцоў марыянаў быў адроджаны на беларускай зямлі біскупам Юрыем Матулевічам (Матулайцісам). У 1923 г. у Друі намаганьнямі Матулевіча быў закладзены кляштар беларускіх марыянаў. Сродкі на яго заснаваньне супэрыёр а. Андрэй Цікота (у будучым генэрал айцоў марыянаў [1933–1939], закатаваны бальшавікамі ў 1952 г.) зьбіраў у Амэрыцы (1921–1923). Дапамагла таксама княгіня Магдалена Радзівіліха, ахвяраваўшы сваё дыямэнтавае кальe. Праіснаваў кляштар нядоўга — да канца 30-х, але законьнікі кляштара, яго клерыкі й вучні, а таксама тыя, хто пазьней увайшоў у ордэн, адыгралі немалую ролю ў разьвіцьці беларускай ідэі ня толькі на Беларусі, але й на эміграцыі.

Першым быў прыняты ў Друйскі кляштар а. Казімер Смулька (1894-1965). Потым прыехалі а. Язэп Дашута (1891–1966), а. Віталь Хамёнак (1889–1972). Яны ўтрох пасьля ліквідацыі польскімі ўладамі Друйскага кляштара пераехалі ў іншы кляштар — у г. Скужэц каля Седлец у Польшчы. Астатнім пашанцавала меней: а. Ф. Абрантовіча зьнішчылі бальшавікі, а. Антона Ляшчэвіча й а. Юрыя Кашыру — фашысты. Толькі адзінкі здолелі выехаць на эміграцыю: а. Ф. Журня, а. Т. Падзява, Я. Малецкі (у ягоных ўспамінах «Пад знакам Пагоні» колькі старонак прысьвечана Друі), некаторыя іншыя.

*

Адной з найбольш прыкметных постацяў сярод айцоў марыянаў у Друі й на эміграцыі быў а. Язэп Гэрмановіч (1890–1978). Пра пачатак ягонай сьвятарскай дзейнасьці ў м. Лужкі піша Васіль Сініца (Стома) ва ўспамінах «Маё мястэчка» (рукапіс перахоўваецца ў архіве БІНІМу, а сам твор плянуецца да друку ў часапісе «Полымя»):

*Аб адным з рэзыдэнтаў клябаніі, гэта аб а. Язэпу Гэрмановічу, у мяне засталіся самыя добрыя ўспаміны. Будучы ўжо дарастаючымі хлопцамі, я й мае сябры часта наведвалі а. Язэпа, нібы "прыпадкова" зайшоўшы ў клябанію. Дзеля гэтага, ідучы са школы, мы "скарачалі" дарогу, а фактычна рабілі кілямэтра паўтара кругу, абы толькі зайсьці да а. Язэпа. Ён-жа заўсёды спаткаў нас з прыветнай усьмешкай і для кожнага зараз-жа выносіў вялікую лусту хлеба, насмараваную духмяным мёдам і спорны чырвонабокі яблык. Мы, ведама, ня вельмі адмаўляліся ад пачастунку, пасьля якога а. Язэп жартаваў з намі, апавядаючы сьмешныя гісторыі, дэклямуючы беларускія вершы або тлумачачы нам, хто мы такія й чым мы розьнімся ад палякоў ці расейцаў. Ўкаль, як бы штосьці прыпомніўшы, ён нейк ласкава ўсьміхаўся й казаў: «А можа-б вы зайшлі ў касьцёл і памаліліся, малітва нікому не зашкодзіць». Тады некаторыя з нас адказвалі, што мы праваслаўныя. А. Язэп на гэта адказваў зь мілай ўсьмешкай, што для Хрыста няма ні праваслаўных, ні каталікоў, абы толькі моцна верыць у Яго, а Ён сам разьбярэцца, якая вера больш правідловая й справлівая. «Ну, а як будзе з Абам? — ня ўнімаліся мы. — Ён-жа ня верыць у Хрыста». Айцец Язэп на хвілінку задумваўся, а пасьля з прыемнай усьмешкай казаў: «Аба няхай моліцца свайму жыдоўскаму Богу, Ён пачуе ягоныя малітвы і ў каталіцкім касьцеле. Толькі няхай не забудзецца зьняць шапку, уваходзячы ў касьцёл», — дадаваў ён.*

*Часта ў сьвяточныя дні, праходзячы каля касьцёлу, можна было пабачыць на цьвінтары групу людзей, якія чамусьці не заходзілі ў касьцёл, хоць там адбывалася Божая Служба. Праз некаторы час яны, як-бы кімсь паклікаными, гурмам валілі ў касьцёл. Справа тлумачылася вельмі проста: гэта мясцовыя ўрадаўцы, панкі й падпанкі, а таксама іх падпявалы выходзілі з касьцёлу, калі а. Язэп пачынаў беларускае казаньне й вярталіся назад, калі ён гэтае казаньне канчаў.*

*Апрача нацыянальна-ўсьведамляючай працы, а. Язэп праводзіў таксама й дабрадзейную, хоць і моцна абмежаваную, дзякуючы мясцовым спэцыфічным умовам і варожа настаўленай да яго пануючай, а тым самым і больш заможнай клясы, ад якой ён у сваю чаргу ня мог чакаць ніякай дапамогі. Так што гэтая дзейнасьць апіралася выключна на яго ўласныя матар'яльныя сродкі. І трэба зазначыць, што ён ніколі іх не шкадаваў для патрабуючых.*

*Лужэцкая рымска-каталіцкая парафія была аднэй з найбольшых у акрузе, бо да касьцёлу ў Гармановічах было больш дванаццаці кілямэтраў, у Задарожжы — каля пятнаццаці, а ў Язьне й цэлых дваццаць пяць. Так што пробаш-*

рамі апошняга, ладзіў на пачатку лета 1918 году дзьве выстаўкі беларускага мастацтва, адну ў Вільні, другую ў Менску.

Пасьля заканчэньня вайны я працаваў як літаратар у Бэрліне. У 1923 г. пераехаў у Мюнхен, дзе пераважна працаваў як журналіст у радыёперадачах аб літаратуры, тэатры й фільмах. У 1942 г. у вадным з часапісаў Ваймару я пераняў працу кіраўніка аддзелу культурных справаў і туды пераехаў. Ад 1945 г. ізноў працую як незалежны літаратар.

На пытаньне пра др. Альбэрта Іпэля нажаль я не магу нічога адказаць. Ад канца 1919 г. я зь ім больш не сустракаўся й ня ведаю, дзе ён жыве й наагул ці яшчэ жыве.

**Вальтэр Егер**

*Ваймар, лістапад 1954 г.*

**Пераклад зь нямецкае мовы Юльяны Вітан-Дубейкаўскай**

**Заўвагі перакладчыцы**

Ад сябе магу дадаць, што сп. Вальтэр Егер калісьці мне пісаў, што гады, пражытыя ў Вільні, як і яе жыхары, гасьцінны дом маіх бацькоў, у якім ён часта спатыкаў майго сябру Івана Луцкевіча, наша супольная праца й гутаркі, — навучылі яго любіць гэты горад і край, дзе людзі яшчэ захавалі шмат сэрца й шчырасьці.

Вельмі шкадую, што нічога не магу падаць пра др. Альбэрта Іпэля. Калі ён вясною 1919 г. ладзіў разам зь Іванам Луцкевічам выстаўкі, я ня мела магчымасьці дапамагаць ім, бо мая маці ў гэты час цяжка хварэла. Гэтак я не магла ўключыць др. Іпэля ў кола маіх добрых знаёмых. Ведаю толькі, што Іван Луцкевіч вельмі цаніў супрацу й дапамогу др. Іпэля.

**Юльяна Вітан-Дубейкаўская**

*Нюрнбэрг, 25 лістапада 1954 г.*

## НОВЫ ЗБОРНІК СЛАВАМІРА АДАМОВІЧА

У Менску ў сэрыі «Бібліятэка *Фрагмэнтаў*» зьявіўся новы, пяты, зборнік вершаў С. Адамовіча «Сьпіраль Бруна», у які ўвайшлі творы, напісаныя падчас знаходжаньня за кратамі КГБ.

У № 2 за 1997 г. варшаўскага двухмесячніка "Magazyn Literacki" зьмешчана нізка вершаў Славаміра Адамовіча зь невялікаю прадмоваю Томаша Шчэпаньскага «Паэт пайшоў у турму». Нізка пачынаецца з найбольш вядомага верша «Забі прэзыдэнта». Пераклады на польскую мову зроблены Чэславам Сэнюхам і Аляксандрай Патэюк. Завяршаецца публікацыя разьдзелам з паэмы Я. Коласа «Новая зямля», «Панскія забавы».




## НОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

**Philip R. Pryde, ed. *Environmental Resources and Constraints in the Former Soviet Republics.* Boulder, Colorado: Westview Press, 1995. 366 p.**

У зборніку зьмешчаны разьдзел пра Беларусь Алега Чэрна і Надзеі Кавалёвай.

**Bartlomiej Kaminski, ed. *Economic Transition in Russia and the New States of Eurasia.* Armonk, N.Y.: M. E. Sharpe, 1996. 430 p.**

У кнізе зьмешчаны разьдзел Марэка Дамброўскага й Рафала Антчака «Эканамічны пераход у Расеі, на Украіне й у Беларусі: параўнальныя пэрспэктывы».

**BELARUSIAN REVIEW. Vol. 9. No. 3. Fall 1997. 32 p.**

Багаты зьместам нумар падае выказваньні новага амэрыканскага пасла ў Беларусі Дэніэла Спэкгарда; павєдамленьні пра ход перамоваў паміж беларускім урадам, апазыцыяй ды прадстаўнікамі Эўрапейскае упольнасьці; працяг артыкула праф. Дэвіда Марплса, у якім даецца аналіз лукашэнкаўскага рэжыму; рэпартаж Дж. Пацэвіча з Другога зьезду Беларусаў сьвету; інфармацыю пра дзейнасьць Рады БНР; мноства выпісак з заходняга друку пра Беларусь ды шмат іншага цікавага матар'ялу.

## *ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД*

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*У выдадзеным у 1982 г. зборы твораў Алеся Салаўя «Нятуская краса» ў бібліяграфіі пад нумарам 91 зазначана: «Employ. Верш, пісаны ў Аўстрыі ў 1946 г. Нідзе не друкаваўся. Рукапіс (нячытэльны) у архіве БІНІМ». Сёньня верш расчытаны. Пэўна, гэта не найлепшы твор паэты, аднак ён яскрава сьведчыць пра настрой аўтара й жыцьцёвыя варункі ў няпросты момант ягонага жыцьця.*

**Employ**

Ня жыцьцё, а пекла. На кватэры
Вось ідзе яно — сьвятло й цяпло.
А ў маіх пасьпісаных паперах
Піша й піша строгае: «Employ».
І цікавіцца: ці ёсьць я ў хаце?
Што раблю? Нічога не раблю.
Буду рад калодкам і лапаце,
Буду рад капейцы і рублю.
І старанна я на гідкіх малпаў
Буду гнуцца ў холад і ў сухмень.
Пот прапльлю, ахвярай стаўшы гвалтаў.
З ног скалечаных — крыві струмень.
Напісаў-бы сотню я паэмаў,
Тысячу-б я вершаў напісаў,
Каб жыцьцёвых нудных тэарэмаў
Цень-сьцігун за мною не гайсаў.
Змог-бы, збочыўшы хаос сусьветны,
Па нязьвежджаных ісьці шляхох.
Быў-бы я вялікі і славуты,
Несьмяротным нават быць-бы мог.
А цяпер — нішто. Есьць косьці шашаль.
Рад жывот вадзе — бы малаку.
Грудзі рве сухі, калючы кашаль,
І іду — ледзь ногі валаку.
Добрая сучаснасьць не ў кватэру
Жыць мяне ўсадзіла, а ў дупло.
І ў маіх нясьпісаных паперах
Запісала строгае «Employ».

*чы, якія былі перад ім і пасьля яго, жылі, можна сказаць, больш чым заможна. Часта іх можна было бачыць едучых на парцы коні й з фурманом, і наагул у клябаніі аж мітусілася ад службы [ад колькасьці прыслугі], а ў а. Язэпа была заўсёды пацыраваная сутана й стаптаныя чаравікі. Але калі ў мястэчку здарылася камусь бяда, то ён у першую чаргу ішоў да а. Язэпа й, нягледзячы на тое, ці ён быў каталіком, праваслаўным, ці нават жыдам, заўсёды атрымоўваў дапамогу ў меру магчымасьцяў гэтага сапраўды Добрага Пастыра.*

*Ясна, што пробашча з такім характарам не маглі цярпець ані сьвецкія, ані духоўныя ўлады, і ён неўзабаве апынуўся ў Друі, а крыху пазьней у Харбіне, аб чым ён дакладна апісаў у сваёй кніжцы "Кітай, Сібір, Масква".*

Язэп Гэрмановіч меў намер напісаць другую кнігу ўспамінаў «Учора–сягоньня–заўтра», пачатак якой друкаваўся ў часапісе «Божым Шляхам», але заняпасьць рэдагаваньнем часапісу ды заўчасная сьмерць не дазволіла ажыцьцявіць гэты намер.

*

Айцец марыянін Леў Гарошка (1911–1977) ня быў выхаванцам Друйскага кляштару; начаткі навукі ён атрымаў у ня менш знакамітай беларускай вучэльні — Навагрудзкай гімназіі. Пра свайго настаўніка А. Орсу, пра мітрапаліта Шэптыцькага, Парыж, арганізацыю беларускага школьніцтва ў арміі Андэрса ды яшчэ багата пра што — у дасёньня не друкаваных успамінах айца Льва (дарэчы, ягоныя зборнік беларускіх прыказак і матар'ялы да грэцка-лацінска-славянска-беларускага слоўніка таксама не надрукаваныя). Добра вядомы ягоныя навуковыя, тэалягічныя працы, мастацкая проза, жыцьцяпісы беларускіх сьвятароў Талочкі, Станкевіча, Неманцэвіча. Менш вядомае някідкае жыцьцё самога айца. Вось колькі вытрымак з прыватнага ліставаньня а. Л. Гарошкі ад 1967 году, якое перахоўвасцца ў БІНІМе й дае прыблізнае разуменьне, чым і як жыў гэты чалавек:

*18.10.1967 памёр мой бацька ў роднай вёсцы на Беларусі. Паўгоду перад тым памерла маці. І гэта сталася ўсяго дзень пасьля таго, як я ў Парыжы адзначыў свае 30 гадоў сьвятарства й тыдзень пасьля таго, як выйшла з друку мая кніжка. Хоць бацька меў ужо 83 гады, але я вельмі балюча адчуў ягоную сьмерць. Ён быў чалавек незвычайны. Нават трапіў на старонкі літаратуры: Янка Брыль успамянуў яго ў сваёй кнізе «На Быстранцы» — аповесьць «У сям'і» — дзе гаворыць аб фельчару Юрку Пятровічу: гэта мой бацька Юрка Пятровіч. Цяпер ужо крыху хаўтурны настрой праходзіць, і зноў мушу брацца за працу. Пазаўчора перадрукаваў колішні мой рэфэрат аб Слуцкім паўстаньні як асобную брашуру і выдаў яе на ратапары...*

*Я на працягу гэтых 20 гадоў пісаў залішне многа і да таго быў перамучаны, што нават на лісты было цяжка адказваць. Цяпер ужо крыху лепш. Але баюся, каб зноў не перацягнуць струны, бо тут, у нас, у Лёндане, гэткая небясьпека існуе заўсёды. Тут-жа ў нас даволі моцны беларускі цэнтр, які мае царкву, манастыр, школу, бібліятэку, музэй, ну й даволі вялікі агарод. А людзей малавата. Дык працы ёсьць заўсёды болей, чым яе магчыма зрабіць...*

*Калісьці ў часе мае бытнасьці ў Парыжу мне давялося пачуць ад аднаго місьянэра такую прыгожую думку аб працавітасьці. Гэта быў італійскі сьвятар, які доўгія гады працаваў місьянэрам у Кітаі. Адтуль яго выкінулі камуністы ў 1958 г. Ён прыехаў у Парыж да айцоў лязарыстаў, дзе жыў і я. Нягледзячы на свае 80 гадоў, ён заўсёды быў нечым заняты. Заўважыўшы, што я нікуды ня выходжу на рэкрэацыі, прыйшоў у мой пакой і пытае, што я раблю. Я расказаў яму аб сваёй працы й паказаў на стол, завалены рознымі паперамі й кнігамі. Ён кажа:*

*— Можа, я Вам магу ў чым-небудзь памагчы?*

*— Ойча, я бачу, што Вы і так заўсёды чымсьці заняты, — адказваю. — Вам, маючы 80 гадоў, ужо належыцца заслужаны адпачынак.*

*— На адпачынак маем цэлую вечнасьць, — адказаў, сьмеючыся, і з ахвотаю ўзяў перапісваць на машынцы вялікі францускі тэкст.*

*

Апошнім на эміграцыі, чый лёс зьнітаваны з Друйскім кляштарам, быў Часлаў Сіповіч. Ён нарадзіўся 8 сьнежня 1913 г. у в. Дзядзінка (адсюль ягоны псэўданім А. Дзядзінка, або А. Дз-ка, якім падпісваў артыкулы, прысьвечаныя Юрку Віцьбічу, Язэпу Гэрмановічу, Льву Гарошку), на Вялейшчыне. Вучыўся ў гімназіі ў Друі, там-жа атрымаў навіцыят у айцоў марыянаў. Духоўную асьвету атрымаў у сэмінарыях Вільні й Варшавы, потым у Рыме, дзе й стаўся сьвятаром. Па сканчэньні Грыгарыянскага Унівэрсытэту чатыры гады наведваў Пантыфікальны Інстытут Вывучэньня Ўсходу, напісаў доктарскую дысэртацыю пра кіеўскага мітрапаліта XVIII ст. Язона Смагарэўскага. У 1947 г. пераехаў у Лёндан, дзе стаўся заснавальнікам і першым рэктарам Беларускай грэка-каталіцкай місіі.

Не ў апошнюю чаргу дзякуючы намаганьням Сіповіча, у 1951 г. на кангрэсе "Pax Romana" ў Рэймсе Беларускае Акадэмічнае Каталіцкае Аб'яднаньне «Рунь» было афіцыйна прынятае ў сябры гэтай арганізацыі. Суправаджалася гэта парадам і вялікімі ўрачыстасьцямі. За колькі дзён перад тым БАКА «Рунь» мела першы ў гісторыі Тыдзень Беларускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў.

Часлаў Сіповіч ня цураўся й палітыкі. У 1950-х гг. у Раду БНР уваходзіў зарганізаваны ім Беларускі Незалежніцкі Народны Хрысьціянскі Рух.

У сан біскупа й на становішча Апостальскага Візытатара для беларусаў Ч. Сіповіч быў узьведзены ў 1960 г. Папам Янам XXIII. Хіратонія адбылася ў

*(Працяг на с. 6)*

*Да 75-годзьдзя Міхася Наўмовіча*

# З МАЛАДЫМ ЗАПАЛАМ

На пачатку кастрычніка споўнілася 75 гадоў з дня народзінаў Міхася Наўмовіча — нязьменнага старшыні Хаўрусу Беларусаў у Францыі, ведамага на эміграцыі мастака і скульптара.

Міхась Наўмовіч нарадзіўся 3 кастрычніка 1922 году ў вёсцы Кашалёва, што пад Наваельняю (Наваградчына). Яготы бацька Іван меў славу добрага бондара, а маці Ганна прыгожа ткала й вышывала. Напэўна, гэта й выхавала ў будучага мастака й скульптара неабходныя для творчай асобы якасьці: ад маці — адчуваньне прыгожага, дасканалага, ад бацькі — цярплівасьць і грунтоўнасьць.

Яскравы ўспамін зь дзяцінства, які часта ўзгадваецца Міхасю.

«Нядзеля... Бацька й маці дома, што, прынамсі, здаралася вельмі рэдка, бо яны абое шмат працавалі, каб аплаціць мае заняткі ў польскай гімназіі.

Маці, як зараз бачу, сядзіць пры стале, прыгожая такая, нешта шые, бацька таксама дзесьці побач, брат з сястрою на вуліцы...

Уся ўвага — я гэта добра адчуваю — скіраваная да мяне, бо я ўладкаваўся ля вакна й малюю... Бацькам гэта прыемна. Ад усьведамленьня гэтага мая істота напаўняецца шчасьцем...»

Хлопчык рос гарэзьлівым, як усе дзеці; дзякуючы настаўнікам рысаваньня і фізычнага выхаваньня палюбіў маляваньне і спорт. З выкладчыкам Рамаеўскім ён мог цэлымі днямі блукаць па ваколіцах і маляваць чароўныя краявіды мілай сэрцу Наваградчыны.

А тым часам у сьвеце ўжо грымела спусташальная вайна. Яе крывавае кола пракацілася па Беларусі спачатку з захаду на ўсход, потым з усходу на захад, дратуючы зьвявечанае цела краіны. Ніхто ня мог застацца ўбаку, калі такое дзеялася навокал. Міхась, як і шмат хто з ягоных аднагодкаў, апрануў уніформу беларускага жаўнера. Моцна трымаючы ў руках стрэльбу, ён стаяў у ахове ўпрыгожанага бел-чырвона-белымі сьцягамі будынку, дзе праходзіў II Усебеларускі кангрэс. З усходу ўсё часьцей даляталі гукі гарматнай кананады. Адную акупацыю мусіла зьмяніць другая, яшчэ больш жорсткая, яна несла з сабою пагрозу ня толькі фізычнага, але і духоўнага генацыду беларускай нацыі.

Пакінуўшы Менск у чэрвені 1944 годзе, маладыя неабстраляныя жаўнеры адразу ж трапілі над жудасную бамбардоўку ў Вільні. Яна й да сёньня стаіць у вачох Міхася, гэтая беларуская Гэрніка. Шмат яго сяброў палегла тады. Гэта пра іх напісаў паэт:

*Дзесьці ў Вільні старой, у магіле сырой...*
*Сьпяць народу сыны, Беларусі яны*
*Там жыцьцё аддалі маладое...*

Потым былі Ўсходнія Прусы, Польшча, Нямеччына, Францыя... Іх высадзілі з цягніка ў Бэзансоне. Далей ішлі пешшу. На прывале ім сказалі, што яны будуць ваяваць у складзе дывізіі SS супраць амэрыканцаў.

Даведаўшыся пра тое, Міхась і яго сябры сабраліся купкаю і доўга плакалі. Потым Міхась бразнуў нямецкім «хэльмам» аб зямлю і сказаў: «Ня буду ваяваць супраць амэрыканцаў! Вось калі б кінулі на Ўсходні фронт — біўся б да апошняга!»

Вартая цэлай аповесьці гісторыя, як Міхась і ягоныя сябры пакінулі шэрагі, што ахоўваліся нямецкай жандармэрыяй, узброенай кулямётамі; як трапілі да французкіх партызанаў — дзякуй богу, да нацыяналістых, бо камуністыя маглі іх расстраляць...

Лёс быў такі?.. Ці Бог шанаваў?..

Міхась ня быў дужа веруючы, але апынуўшыся адзін у лесе, на волі, скінуў з сябе абрыдлы нямецкі мундзер, укленчыў перад вялікім дубам і горача падзякаваў Некаму за ратаваньне.

Пазьней была Італія, служба ў вайсковым судзе ў корпусе генэрала Андэрса, які падпісаў беларускаму хлопцу дазвол паехаць на вучобу ў Францыю, бо запанаваў мір...

Толькі для Беларусаў, зрэшты, як і для іншых паняволеных бальшавізмам народаў, са сканчэньнем вайны барацьба ня скончылася.

Разам з Янкам Філістовічам, Яўгенам Кавалеўскім, Янкам Сурвіллам ды іншымі Міхась закладае ў Парыжы Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі і часапіс «Моладзь», які — пасьля ад'езду на Беларусь адказнага рэдактара Янкі Філістовіча — выдае сам з дапамогаю айца Льва Гарошкі.

Гэта былі гады, напоўненыя плённаю працаю. Жывучы ў сьціплых умовах, як і любы эмігрант, яшчэ нежанаты, Міхась аддаваў увесь свой вольны час грамадзкай справе. А большую частку гэтага часу займала ўкладаньне, друк і рассылка чарговых нумароў «Моладзі».



Цяпер Міхась нават сам падзіўляецца: як-то мог рабіць усё гэта адзін?! А яшчэ ж вучыўся на скульптара і кінэзатэрапэўта, працаваў, каб нейк жыць, аздабляў беларускія кніжкі: «Спадчыну» Янкі Купалы, «Сымонамузыку» Якуба Коласа, «Вянок» Максіма Багдановіча, «Беларусі казкі», нарыс Ст. Станкевіча «Янка Купала», успаміны з-пад Монтэ Касыно «Сьмерць і салаўі» афіцэра-Беларуса Пётры Сыча, паэтычны зборнік «Ля чужых берагоў» ды шмат іншых эміграцкіх выданьняў.

Варта азначыць, што асабістымі намаганьнямі Міхася Наўмовіча быў зроблены, прывезены ў г. Лювэн і пастаўлены помнік на магіле ведамага беларускага кампазытара Міколы Равенскага, аўтара нашага нацыянальнага гімну на словы Натальлі Арсеньневай.

Ішлі гады... Трэба было ўладкоўваць асабістае жыцьцё, будаваць на чужыне сваю сям'ю, свой кут... Міхась ажаніўся, узгадаваў чацьвёра дзяцей, мае ўжо васьмёра ўнукаў. Усе дзеці занялі добрае становішча ў грамадзтве. Асабліва ганарыцца Міхась сынам-архітэктарам і дачкою — мастачкай і дзіцячаю пісьменьніцай.

Але ўвесь час балючаю стрэмкаю сядзела ў сэрцы Міхася туга па родных мясьцінах, куды шлях быў закрыты... Бо яшчэ ў канцы 50-х пісаў яму з Беларусі сябар:

«Я вельмі рады, што ты, сябра, жыў і здароў і што, магчыма, калі-небудзь і сустрэнемся ў Беларусі. За што нас паразганялі па ўсім сьвеце «добрыя» сілы і зрабілі нас *прэступнікамі*, т.ё. «изменниками родины»? Я-то пабыў на фронце і ранены быў, а пасьля за нішто ў Сібір на работы, і вярнуўся толькі ў 1953... І гэтага дазналі ўсе, хто трапіў у лапы... Ты толькі ня здумай здурнець і прыехаць...»

Пасьля такіх лістоў, ведама-ж, не падумаеш аб вяртаньні дамоў, як бы ні карцела пабачыць родных. Вось Янка Філістовіч ня вытрымаў доўга на чужыне і вярнуўся на Беларусь, каб змагацца за яе вызваленьне, ды згінуў назаўсёды. Толькі праз 40 гадоў Міхась даведаўся, што яго найлепшага сябра расстралялі.

Паміраюць адзін за адным бацькі, адыходзяць на векі сябры... Самым жалобным для Міхася стаўся 1977 год. Ён страціў адразу двух вельмі блізкіх людзей — Уладзімера Шыманца, які быў яму за бацьку, і айца Льва Гарошку — свайго духоўнага настаўніка й найшчырэйшага сябра. А яшчэ наваліліся няўдачы ў асабістым жыцьці.

«У дзень сьмерці айца Гарошкі, — успамінае Міхась, — я ледзь не звар'яцеў ад роспачы... Сеў на ровар і еxаў, еxаў, куды вочы глядзяць... Мне не хацелася жыць... Тады я зразумеў, як лёгка можна скончыць жыцьцё самагубствам...»

Час гоіць любыя раны, душэўныя таксама. Трэба было жыць далей, працаваць дзеля дзяцей, дзеля незабыўнай Беларусі, якая неадступна жыла ў думках. Ствараліся новыя творы, ладзіліся выставы, імпрэзы, зьбіраліся ахвяраваньні... Міхась заўсёды быў у цэнтры падзеяў.

Сапраўды, захапленьне спортам засталося ў Міхася з дзяцінства на ўсё жыцьцё. Яшчэ ў войску ў Італіі ён браў першыя прызы ў спартовых спаборніцтвах. Заўсёды рухавы, падцягнуты, Міхась заварожваў сваім спартовым алюрам і вучняў у мастацкай школе, дзе доўгі час выкладаў. Вясёлы й зычлівы да моладзі, ён, разам з тым, мог быць вельмі патрабавальны і строгі, але справядлівы, як успамінае шмат хто зь ягоных былых вучняў.

Пасьля выходу на пэнсію Міхась працягвае лячыць людзей, піша падручнік па марфалёгіі (будове) чалавечага цела, які мяркуецца перакласьці на беларускую мову. Мае ён нямала яшчэ іншых праектаў, спадзяваньняў...

Дык пажадайма нашаму «слаўнаму мастаку», як аднойчы назваў яго а. Гэрмановіч, у дзень яго народзінаў шчасьця й моцнага здароўя, посьпехаў у творчасьці, плёну ў працы на карысьць нашай Бацькаўшчыне.

**Сябра**

# АЙЦЫ МАРЫЯНЕ

*(Працяг з с. 5)*

Мюнхене падчас XXXVII Міжнароднага Эўхарыстычнага зьезду. На працягу шасьці гадоў, пачынаючы ад 1963 г., уладыка Часлаў займаў становішча генэрала ордэну марыянаў і жыў у Рыме. У гэтым званьні ён зьдзейсьніў два падарожжы вакол сьвету па беларускіх мясьцінах. Быў актыўным удзельнікам Другога Ватыканскага Сабору.

Унікальным прэцэдэнтам сталася арганізаванае Сіповічам сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў парляманце Вялікабрытаніі. У прысутнасьці парлямантарыяў, у залі, упрыгожанай бел-чырвона-белым сьцягам, Мікола Абрамчык прачытаў даклад, затым адбыўся канцэрт.

Тытанічных высілкаў патрабавала арганізацыя знакамітай сёньня «Скарынаўкі» — Беларускай Бібліятэкі й Музэю, што адчыніліся ў 1971 г. Дзе толькі магчыма, Ч. Сіповіч шукаў кнігі, рукапісы для яе папаўненьня. І здабываў сапраўдныя каштоўнасьці! У лісьце да спадарства Галякоў ён піша:

*Вярнуўся я шчасьліва ў Лёндан 29 лістапада 1973 г. Прывёз і перадаў у сховішчы Беларускай Бібліятэкі імя Францішка Скарыны Статут Вялікага Княства Літоўскага, які Вы мне перадалі ў Вашым памяшканьні ў Стамфорд дня 22 лістапада. Перадаў я таксама ад Вас ва ўспомненую Бібліятэку: 1. Урадавы Весьнік Генэральнага Камісара Беларусі за гады 1941–44; 2. Рукапіс "Różna miłość Boga", опэра ў двох актах Дуніна-Марцінкевіча, 1860».*

*У бібліятэцы ён выдаў у 1978 г. The pontifical liturgy of Saint John Chrysostom: a manuscript of the 17th century in the Slavonic text and Latin translation; together with The Life of Leodore Skuminovic, Bishop of Gratianopolis, Suffragan and Archadeacon of Byelorussia.*

Часлаў Сіповіч багата зрабіў, каб памяць пра беларускіх сьвятароў ня згінула, ім прысьвечаны апошнія некалькі нумароў часапісу «Божым Шляхам», рэдагаваньне якога Сіповіч узяў на сябе пасьля сьмерці айцоў Л. Гарошкі й Я. Гэрмановіча. На старонках часапісу ён дзяліўся выдавецкімі праектамі, якія, на жаль, засталіся нежыцьцёўленымі. Памёр біскуп Ч. Сіповіч 4 кастрычніка 1981 г. падчас сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя «Скарынаўкі». Зьдзесьніць ягоныя задумы, выдаць успаміны беларускіх сьвятароў, напісаць кнігу пра самога біскупа Часлава Сіповіча — значыць, ушанаваць памяць айцоў марыянаў, аддаць належнае зробленаму імі дзеля Беларусі.

**Лявон Юрэвіч**

**СЭРДЭЧНА ВІНШУЕМ НАШЫХ СЯБРОЎ І ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА», А ТАКСАМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА Ў ЗАМЕЖЖЫ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА, ЗДАРОВАГА І ПЛЁННАГА НОВАГА 1997 ГОДУ**

Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі
Канадыйскі сэктар Рады БНР
Сэктар Рады БНР у штаце Нью Джэрзі
Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня
Галоўная Ўправа Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі
Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва
Управа Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага
Галоўная Ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы
Згуртаваньне Беларусаў Канады
Рэдакцыя *Belarusian Review*
Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Джэрзі
Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Ёрк
Управа парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж.
Парафіяльная рада й духавенства парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта

**УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ «ПОЛАЦАК» У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1998 ГОДУ**

**ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА З ПРЫЧТАМ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў, прыяцеляў і беларусаў на Бацькаўшчыне*
**З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ**
*і жадае добрага здароўя, шмат шчасьця*
**Ў НОВЫМ 1998 ГОДЗЕ**

**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЖАНОЧАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сяброўкам і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1998 ГОДУ**

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*шчыра вітае ўсіх сяброў і супрацоўнікаў з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае добрага здароўя й посьпехаў у*
**НОВЫМ 1997 ГОДЗЕ**

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ**
*жадае ўсім сваім сябром і прыяцелям на эміграцыіі і на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1998 ГОДУ**

Ад імя ЗБВБ
Лёля Міхалюк, Старшыня

## *ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ І НАВАГОДНІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ*

*СВАЯКОМ, СЯБРАМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЗЫЧАЦЬ*

*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка й Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь зь сям'ёй*
*Андрусышыны Юля й Павал зь сям'ёй*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла*
*Арцюх Ляля й Язэп*
*Бартуль Вера, Францішь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Блецка Ўладзімер*
*Буран Вольга*
*Бяленіс Людвіка*
*Верабей Марыя і Кастусь*
*Віньцкія Кацярына й Яраслаў*
*Ганько Марыя й Мікола*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й дочкі Элеанора й Рагнеда з сем'ямі*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Кацяй Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян і Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса і Генадзь малодшы*
*Жамойда Сымон, Тэця і Рагнеда*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Жучка Янка зь сям'ёй*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Завістовіч Іраіда й Расьціслаў*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Надзя і Янка*
*Запруднік Вера*
*Кавалёвы Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта й Юля зь сям'ёй*
*Кажаневіч Хведар з сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна й Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Каханоўская Яніна*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка зь сынамі Алесем, Андрэем і Антонам*
*Клакоцкі Марат*
*Кольба Тамара й Аляксандр*
*Корчык Люба й Юрка*
*Кулеш Павал зь сям'ёй, Дзідзя, Сьцяпан, Адам Гурыны*
*Латушкін Мікола зь сям'ёй*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Маркевіч Антон*
*Махнач Ванда*
*Машанскі Уладзімір*
*Мельяновіч Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Мілешыч-Чарнэцкая Гертруда*
*Міхалюк Лёля*
*Міцкевіч Алесь*
*Мурог Сузана й Лявон зь сям'ёй*
*Найдзюк Юзэфа зь сям'ёй*
*Непейн Надзя й Аляксандар*
*Норык Кінуся й Лёня*
*Орса-Романо Алла зь сям'ёй*
*Пануцэвіч Ірэна*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Прускі Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Рамук Вера й Вітаўт зь сям'ёй*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Якуб, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна й Аляксандар*
*Сям'я Стагановіч*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Андрэй зь сям'ёй*
*Субота Кацярына й Адоль*
*Сурвілла Івонка, Ганна й Паўлінка зь сем'ямі*
*Стус Валянціна й Багдан*
*Сьнежка Тамара й Мікола*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга й Міхась*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка й Янка малодшы*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Чарнэцкі Юрка*
*Шукелайць Антон*
*Шчэцька Алла й Васіль*
*Яновіч Валентына й Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*

**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябром на эміграцыі і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1997 ГОДУ**

**LUKJAN METAL PRODUCTS, INC.**
P.O. Box 357
Industry Street
Conneaut, OH 44030
*Сям'я Лук'янчыкаў — Натальля, Анатоль і Лена — жадаюць сваім сябрам і знаёмым вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году!*

**ЭКУМЭНІЧНЫ АМЭРЫКАНСКІ СУСЬВЕТЫ ПАТРЫЯРХАТ**
**З нагоды Сьвята Нараджэньня Хрыстова віншуе прыхільнікаў і вернікаў у Беларусі й жадае вытрываласьці на Божай ніве.**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ГІПАЛІТ ПАЛАНЕВІЧ



Гіпаліт Паланевіч нарадзіўся 10 ліпеня 1907 г. на Меншчыне, у беларускай шляхецкай сям'і. Пачатковую й сярэднюю асьвету атрымаў у Менску. У 1932 годзе скончыў Ленінградзкі пэдагагічны інстытут. Западозраны ва ўдзеле ў беларускім руху, быў арыштаваны й асуджаны на 5 гадоў ссылкі: з 1936 да 1940 году знаходзіўся ў Ухта-Іжэлескім выпраўча-працоўным лягеры. Выйшаўшы на волю, працаваў у школе. У 1944 годзе мусіў пакінуць Беларусь. Канец II сусьветнай вайны застаў яго ў Нямеччыне, у амэрыканскай зоне.

З 1946 да 1950 году працаваў настаўнікам у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. У 1950 годзе эміграваў у ЗША. Спачатку працаваў на фабрыцы, пазьней пайшоў вучыцца ва ўнівэрсытэт, які скончыў у 1962 годзе з тытулом *Master of Library Science* і працаваў у сыстэме нью-ёркскіх бібліятэк. Адначасова зьяўляўся супрацоўнікам інстытуту па вывучэньні СССР.

У 1975 годзе спадар Паланевіч выйшаў на пэнсію. Нарэшце надышоў час адпачыць, аднак неўзабаве сп. Гіпаліт занядужаў і ў 1983 годзе перанёс дзьве апэрацыі, а з 1994 году цяжкая хвароба зусім прыкавала да ложка.

Сьветлай памяці Гіпаліт Паланевіч быў чалавекам адукаваным і сьведамым. Яго праца ў выхаваньні моладзі на эміграцыі займае паважнае месца. У беларускім грамадзкім руху ён карыстаўся высокім аўтарытэтам.

Пахаваньне Гіпаліта Паланевіча адбылося на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку, Нью-Джэрзі, 27 лістапада 1997 г. Правесьці ў апошні шлях сабралася шмат сяброў і прыяцеляў.

Складаем спадарыні Тамары Паланевіч шчырыя спачуваньні.

Вечная яму памяць!

**Васіль Шчэцька**

---

Пасьля цяжкой працяглай хваробы 6 сьнежня памёр

**сьвятой памяці**

**ФРАНК РОМАНО**

Спачуваньні сям'і й родным выказваюць
БАЗА, БІНІМ і рэдакцыя газэты «Беларус»

---

Выказваем

**спадарыні Алле Орса-Романо**

самыя шчырыя спачуваньні ў сувязі з заўчасным адыходам у вечнасьць Вашага шаноўнага

**мужа**

Смуткуем разам з Вамі й Вашымі сынамі па цудоўным чалавеку, памяць пра якога назаўсёды захаваецца сярод тых, хто яго ведаў.

*Ад імя Управы Згуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» і ад сябе асабіста*
*Ганна Сурмач*

---

### КНІГУ, ЧАСАПІС, ГАЗЭТУ
### *НА СЬВЯТОЧНЫ ПАДАРУНАК*

Зрабеце неспадзеўку сваяку, сябру, знаёмаму — падпішэцеся для яго на беларускае пэрыядычнае выданьне або выпішыце кнігу пра Беларусь.

**БЕЛАРУС.** P.O. Box 310178, Jamaica, NY 11431-0178. $30 yearly.

**БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ.** 1086 Forest Hills, SE, Grand Rapids, MI 49546-3616. Кошт падпіскі — добраахвотнае ахвяраваньне.

**BELARUSIAN REVIEW.** P.O. Box 10353, Torrance, CA 90505. $40 на год.

**BELARUS. FROM SOVIET RULE TO NUCLEAR CATASTROPHE** *by David R. Marples*. St. Martin's Press. Scholarly and Reference Division, 175 Fifth Avenue, New York, NY 10010. $39.95.

**BELARUSIAN CHRONICLE.** Marian House, Holden Av., London N12 8HY. Autumn 1997 — No. 1. Гэты бюлетэнь працягвае разьдзел, які вёўся пад тым самым загалоўкам у часапісе Англа-Беларускага Таварыства *The Journal of Belarusian Studies* (1964–1978). У ім падаецца інфармацыя пра падзеі ў Велікабрытаніі, а таксама матар'ялы зь беларускае культурнае спадчыны й гісторыі. Кошт падпіскі — добраахвотнае ахвяраваньне.

## АХВЯРАВАНЬНІ

### На выдавецкі фонд «Беларуса»

| | |
|---|---|
| Т. Лемяшонак ад Аддзелу ЗБВБ ў Брэдфардзе | ам. дал. 300 |
| Л. Гутырчык | 100 |
| Ю. і П. Андрусышыны й Я. Каханоўская (на сьвежую магілу Гіпаліта Паланевіча) | 50 |
| К. Акула | 45 |
| А. Романо (у памяць Аўгена Лысюка) | 40 |
| В. Камінскі | 30 |
| Т. і Э. Нядзьвецкія | 30 |
| Г. Акавіты | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |

#### У памяць Ф. Романо

| | |
|---|---|
| Я. і Н. Запруднік | 100 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| Ю. і Л. Кіпель | 100 |
| А. Кіпель | 100 |
| Л. Трусэвіч зь сям'ёй | 100 |

#### Фінансавая справаздача за кастрычнік і лістапад 1997 г.

| | |
|---|---|
| В.М. | ам. дал. 100 |
| Л. Норык | 70 |
| Б. Даніловіч | 50 |
| М. Грынчук | 50 |
| Л. Дурэйка | 50 |
| М. Грэбень (у памяць Н. Арсеньневай) | 50 |
| Р. Завістовіч | 40 |
| Я. і В. Найдзюк | 40 |
| М. Сенька | 35 |
| Н. Калядка | 35 |
| Н. Аляксандр | 30 |
| Л. Бакуновіч | 30 |
| Г. Гэльвіг | 30 |
| А. Губэрт | 30 |
| М. Ігнатовіч | 30 |
| А. Шостак | 30 |
| І. Калоша | 30 |
| В. Каракулька | 30 |
| М. Прускі | 25 |

### На арганізацыйныя патрэбы Галоўнае Управы БАЗА:

| | |
|---|---|
| Л. Колін | ам. дал. 600 |
| А. Романа | 600 |
| К. Романа | 600 |
| В. і З. Кіпелі | 400 |
| А. Шукелойць | 200 |
| А. Кіпель | 100 |
| Ю. і Л. Кіпелі | 100 |
| Т. і А. Кольба | 100 |
| Г. і В. Русакі | 100 |
| Р. Станкевіч | 60 |
| Л. Норык | 50 |

### На дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:

| | |
|---|---|
| Т. Кольба (у памяць Н. Арсеньневай) | ам. дал. 100 |
| В. і З. Кіпелі | 100 |
| І. Аўсей | 100 |
| Л. Гутырчык (у памяць А. Касьцюкевіча) | 50 |
| В. Амельчанка | 20 |
| К. Скаравы | 20 |
| Р. Суднік | 16 |
| Сям'я Стагановіч | 15 |

### На фонд адраджэньня Беларусі

| | |
|---|---|
| Я. Запруднік | 500 |
| З. і В. Кіпель | 500 |
| Г. і В. Русак | 500 |
| Н. і А. Сільвановіч | 500 |
| Д. Стагановіч | 500 |

Адміністрацыя Фонду складае шчырую падзяку ахвярадаўцам і заклікае ўсіх, хто хоча, каб Беларусь стала свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавай, перасылаць свае ахвяры на адрас:

Belarusan Renewal Fund
c/o Vera Zaprudnik, 97 Vanderbilt Road
Manhasset, NY 11030

---

У шпіталі
**Maimonides Medical Center,**
Боро Парк, Бруклін, Нью-Ёрк,
пачаў працаваць
**ПЕРАКЛАДЧЫК ЗЬ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ**
ў ангельскую.

---

З 2 сьнежня ў галерэі Сохо 20
(545 Broadway 3rd Floor, New York)
пачала экспанавацца
выстаўка мастацкіх працаў Галіны Русак
**«Цуды й няшчасьці: Навакольныя й ня зусім палітычныя»**
***Miracles and Disasters: Environmental and Not Quite Political***
Выстаўка працягнецца да 27 сьнежня.
Галерэя працуе ў торака да суботы
12 AM – 6 PM

---

### СУСТРЭНЬМА НОВЫ ГОД РАЗАМ!

Прыход царквы сьвятога Кірылы Тураўскага
ў Рычманд-Гіл (Кўінс, Нью-Ёрк) ладзіць
**сьвяточную сустрэчу Новага 1998 году.**

Сяброўская атмасфэра, вясёлыя гульні, добры настрой — чакаюць Вас.
Музычную частку вечара вядуць
Валянціна Пархоменка, Алесь і Вольга Казак.

Уступ (donation) $25 ад асобы. Пачатак 31 сьнежня 1997 г. а 9 гадзіне вечара.

Запрашаем усіх жадаючых, звяртайцеся загадзя.

Даведкі па тэлефоне
**(718) 847-4123**

Адрас царквы:
**104-29 Atlantic Ave.**
**Richmond Hill, NY 11418**